# Рабочы Бабруйска

№ 13 (54) 18 – 25 красавіка 2001г. Наклад 299 ас. Паштовы адрас: 213 807, Бабруйск, а/с 25. Рэдактар Ігар ХОДЗЬКА.


СВЯТА?

## Ці былі бальшавікі рабочай партыяй?

*( Да 131 угодкаў з дня нараджэння У. І. Леніна)*

Вядома, хто мае ўладу, той перапісвае гісторыю на сваю карысць. Камуністы доўга тлумілі мазгі сваёй сацыяльнай прапагандай, тым не менш ніхто ўсур'ёз не ўспрымаў гэтай афіцыйнай трасканіі і агітацыйнага кіно. На дзяржаўным гербе былі выяўленыя сімвалы працы – серп і молат. Што ж, ёсць краіны, дзе на гербе намаляваныя арлы і львы, дык ніхто ж не прымушае кіраўнікоў гэтых краін лётаць ці рычаць. Гэта ўсе ведалі дасканала, але ў апошнія дзесяцігоддзе назіраецца хваля настальгіі па адносна стабільнай мінуўшчыне, выкліканая хутчэй незадаволенасцю цяперашнім станам рэчаў, чым сапраўды жаданнем вярнуць "светлае мінулае". Але ж ці мела бальшавіцкая партыя дачыненне да рабочага руху хаця б на пачатку свайго існавання?

Факты сведчаць аб іншым. Ніякая партыя не магла б існаваць толькі на мізэрныя грошы, атрыманыя з уплаты членскіх узносаў, гэта факт. Бальшавікі карысталіся ахвяраваннямі спачуваючых ім капіталістаў – Савы Марозава, напрыклад.Не грэбавалі звычайнымі махінацыямі і рабункамі, якія яны называлі экспрапрыяцыямі. Вось, напрыклад, як адбывалася "добраахвотная" перадача спадчыны пляменнікам Марозава – М. П. Шмідтам.



Абработаны бальшавікамі, Шмідт абяцаў перадаць партыі свой маёнтак, але не паспеў аформіць тэстамент – грошы дасталіся дзвюм яго дачкам. Старэйшую акруціў таварыш па партыі, але, відаць, грошы моцна паўплывалі на яго свядомасць і ён адмовіўся аддаваць капітал на вызваленне працоўных, на яго прыйшлося моцна наехаць. Другую дачку, непаўналетнюю Лізавету, спакусіў па заданню партыі таварыш В. Таратута, каб яна выйшла замуж за другога таварыша – Ігнацьева— і перапісала грошы на рахункі партыі (пасля шлюбу Лізавета засталася каханкай Таратуты, але якая гэта дробязь – распуста – у параўнанні з сусветнай рэвалюцыяй!). Такім чынам, бальшавікі былі звычайнай злачыннай групоўкай і лінію партыі мянялі паводле прыхамаці правадыроў.Калі ім не было выгады абараняць інтарэсы працоўных, бальшавікі адмовіліся ад лозунгу перадачы фабрык рабочым і ўсталялі жорсткі бюракратычны парадак як на прадпрыемствах, так і ва ўсёй краіне. Вядомы выпадак з групай "Рабочай апазіцыі", да якой разам са Шляпнікавым, Калантай, Мядзведзевым і ін. належаў і аўтар кнігі"Як гартавалася сталь" М. Астроўскі. "Рабочая апазіцыя" патрабавала спыніць партыйную дыктатуру, перадусім у прафсаюзах, і перадаць вышэйшую ўладу "Саюзу вытворцаў".

У выніку ў Савецкім Саюзе прафсаюзы ператварыліся ў "прывадныя рамяні партыі", а "авангард рабочага класа" – у армію чыноўнікаў, жорсткую і сквапную, здольную на самыя цынічныя злачынствы дзеля ўласных інтарэсаў. Хто вывез за мяжу партыйную касу, камуністы ці бандыты? Якая розніца? Каго пакрывае Барадзін? Усё паступова высветліцца, калі адна злачынная групоўка раскапае кампрамат на другую. Не міне гэты келіх і нашых беларускіх дзяржаўцаў, якія ой як не любяць нахабных журналістаў! Тыя ж, хто прывык красці пад нашымі сцягамі, не пачырванеюць ад сораму.

**Дз. СЕРАБРАКОЎ.**

НАВІНЫ

## Гадзіна памяці ў дзень смутку

26 красавіка спаўняецца 15 год з дня Чарнобыльскай катастрофы. Бабруйскія ўлады звычайна ігнаруюць гэты трагічны для кожнага грамадзяніна Беларусі дзень.

Па нашых звестках, прадстаўнікі дэмакратычнай апазіцыі Бабруйска плануюць правесці ў гэты дзень шэраг жалобных мерапрыемстваў, прысвечаных пацярпелым ад адной з самых жахлівых катастроф XX стагоддзя. У мінулым годзе акцыя дэмакратычных сілаў пад назовай "Хвіліна памяці ў дзень смутку" адбывалася ў 17.30 ля Дома сувязі і прайшла без канфліктаў з супрацоўнікамі міліцыі. Ці будзе парушана традыцыя ў гэтым годзе? Прыйдзем і паглядзім.

## Дзе Ганчар? Дзе Завадскі? Дзе Захаранка? Дзе Красоўскі?

Надпісы з такімі пытаннямі з'явіліся на платах і сценах нашага горада. Па хуткасці замалёўвання відавочна, што ўлады спужаліся, але Бог з імі. Пытанні, як-ніяк былі зададзены нам - бабруйчанам, якія прызвычаіліся да жабрацкага стану, да знікнення людзей, да штодзённай сумнай барацьбы за існаванне.

## Ці сума, ці турма...

Вынікі працы прамысловых прадпрыемстваў нашага горада ў першым квартале бягучага года, смела можна назваць правальнымі. Прагнозныя паказчыкі за гэты перыяд прамысловасцю Бабруйска выкананы менш чым на 90 працэнтаў. У найбольш жахлівым стане на сённяшні дзень знаходзяцца БШК, ФанДАК, мехавая фабрыка і бабруйскі піўзавод. Верагоднасць выканання прагнозных паказчыкаў прамысловымі прадпрыемствамі горада ў гэтым годзе роўная нулю,што азначае далейшае абнішчанне ўсіх нас.

Вынікі працы за першы квартал бягучага года падводзілі і міліцыянты. На працягу першых трох месяцаў 2001 года зарэгістравана 869 злачынстваў. Па лініі крымінальнага вышуку зарэгістравана 649 злачынстваў, з якіх каля 348 раскрыта. Нягледзячы на нязначны спад злачыннасці ў нашым горадзе, паляпшэння крымінальнага стану ў гэтым годзе не прагназуецца. Прадпрыемствы не працуюць, мізэрныя заробкі затрымліваюцца. Як жыць людзям? А пытанне—ісці ці не на вялікую дарогу— палягае ў сферы маралі.

## Пачутае пабачыць бы...

Ахілесавай пятой бабруйскіх уладаў на працягу доўгіх год застаецца жыллёвае будаўніцтва. Так, у канцы мінулага года, нягледзячы на дрэннае надвор'е, аўральным здаваўся цагляны дом ля гарвыканкама. У гэтым годзе плануецца ўвесці ў эксплуатацыю 13 жылых дамоў на 786 кватэр агульнай плошчай 52904 квадратныя метры і 128 індывідуальных жылых дамоў агульнай плошчай 12096 метраў квадратных. Пакідаючы па-за ўвагай якасць будаўніцтва і фантастычнасць планаў гарвыканкама, адзначым, што тыя чыноўнікі, якія абяцаюць сёння выканаць праграму "Жыллё", раней абяцалі даць да 2000 года кожнай сям'і асобную кватэру.

## Футболу быць!

Нягледзячы на ўсе хваляванні, стадыён "Спартак", хоць і з пэўнымі заўвагамі, быў прыняты 11 красавіка.У гэты дзень наш горад наведаў начальнік па правядзенні спаборніцтваў Беларускай федэрацыі футбола Вадзім Жук. Першы матч сезона 2001 года адбудзецца 15 красавіка,калі да нас прыедзе "Нафтан-Дэвон".

## Бывай, зброя

Падчас месячніка добраахвотнай здачы зброі, які праводзіўся ў лютым-сакавіку бягучага года, арсенал бабруйскага гарнізона папоўніўся на 900 адзінак зброепрыпасаў розных тыпаў, якія дагэтуль незаконна захоўваліся ў насельніцтва. Можна толькі здагадвацца, колькі зброі на сённяшні дзень знаходзіцца на руках у насельніцтва.

**Ул. інф.**

## Пра журналістаў і мараль

Мясцовыя пісакі накінуліся на хлопца, які быў затрыманы 9 красавіка падчас расклейвання налепак руху "Зубр", якая мае самае прамое дачыненне да надпісаў, што мусілі звярнуць нашу ўвагу на знікненне вядомых беларускіх палітыкаў і журналістаў. Што можна казаць пра маральны партрэт нейкага чалавека, калі яго больш за ўсё турбуюць абшарпаныя сцены і гнілыя платы, а не знікненне людзей і боль іх родных.

**Іван МАСКАЛЬ.**

НАШЫ ПРАВЫ

## Независимый взгляд

Бобруйчане, которые в прошлом году наблюдали за ходом выборов в ПП НС и не согласились с имевшим место подсчётом волеизъявления народа, решили поддержать общественную инициативу неполитических республиканских организаций "Независимый взгляд". Общественная инициатива "Независимый взгляд" - это попытка создать объективное наблюдение за подготовкой, ходом выборов и подсчётом голосов. Всем, кому не безразлично, в какой стране мы будем жить следующие пять лет, определяйтесь!

Телефон для справок: 7-75-60 (Игорь).

## Рынкавы сацыялізм у дзеянні

У складаным становішчы апынуліся працаўнікі адкрытага таварыства "Бабруйскбытмэбля". Як сцвярджаюць рабочыя гэтага прадпрыемства, ім цяпер даводзіцца працаваць у цяжкіх, невыносных умовах. І без таго мізэрны заробак звычайна затрымліваецца на 2-3 месяцы. А больш за 15 тысяч, нават на здзелцы, атрымаць практычна немагчыма. Ужо са снежня людзі дыхаюць адным пылам,бо не працуе вентыляцыя. Між тым, яна быццам бы знаходзіцца ў спраўным стане, але дырэктар чамусьці карыстацца ёю не дазваляе.

Не выдаецца спецаддзенне, малако, а так званыя даплаты за шкоднасць чыста сімвалічныя. Шматлікія звароты ў санэпідэмстанцыю справы з месца не зрушылі.

Рынкавы сацыялізм дае дуба!

**Віктар КУЛІКОЎ.**

## Не давайце сябе падмануць

У мінулую суботу Асацыяцыя маладых хрысціянскіх жанчын (АМХЖ) прапанавала для бабруйчанак семінар "Папярэджанне вывазу беларускіх жанчын для сэксгандлю за мяжой".

Не сакрэт, што многія беларускія жанчыны выкарыстоўваюць шанц узяць шлюб з іншаземцамі як сродак паляпшэння матэрыяльнага дабрабыту.

Удзельніцы семінара атрымалі спіс арганізацый, якія маюць ліцэнзію на працаўладкаванне за мяжой. Бо паездка на працу за мяжу таксама можа абярнуцца невядома чым.

**Л.РОДЗІКАВА.**

## Асцярожна – рэкламная паўза!

У гэты злапалучны дзень Вераніка і Аліна – сёстры-школьніцы 9 і 10 гадоў, як звычайна, знаходзіліся дома – заняткі ў школе пачыналіся з абеда. Раптам увагу дзяўчынак прыцягнула тэлевізійная рэклама. На экране ішоў вядомы ролік "Калі хочаш выйграць… тэлефануй нам на нумар…" Дзяўчынкі з імпэтам узяліся за справу. Тым больш нікога з дарослых у кватэры не было, ніхто не перашкаджаў. Як высветлілася пазней, у першы раз "націкала" сума ў 28 тысяч 900 рублёў. У наступны раз атрымалася больш сціпла – пяць тысяч сто. Агульная сума, як няцяжка падлічыць, раўнялася 34 тысячам рублёў. Выйшла нават больш, чым зарабляе на мэблевай фабрыцы іх маці. Давялося той з працягнутай рукой хадзіць па родных ды знаёмых, пазычаючы грошы. Дзякуй начальніку гарадскога вузла сувязі спадару Каліцчуку—ён увайшоў у становішча і дазволіў расцягнуць "касмічную" аплату ажно на 3 месяцы.

Вінаваціць занадта дапытлівых дзяўчынак бессэнсоўна. Ці можа іх дзіцячы розум зразумець значэнне мудрагеліста-папераджальных слоў: "асобам з абмежаванай адказнасцю тэлефанаваць забараняецца"? Рэкламадаўцы ў шалёнай празе "ўзяцца на бабках" зацікаўлены апераваць такімі цьмянымі фармулёўкамі. Таму з такой сумнёўнай рэкламай іншаму не доўга і без кватэры застацца. Калі ад рабаўніка можна бараніцца кратамі ці сігналізацыяй, дык ад рэкламнага шулерства ратунку няма. Хіба што ўвогуле пазбавіцца ад тэлефона ці "блакітнага экрана"?

Пацярпелая звярнулася са скаргаю ў мясцовае аддзяленне Беларускага Хельсінскага камітэта. Хоць, зразумела, шанцы атрымаць кампенсацыю ў яе надта малыя. Наўрад ці наша "самая прававая дзяржава" дазволіць з'явіцца непажаданаму прэцэдэнту.

**Віктар КАЧАН.**

НАША СЛОВА

### Паступілі новыя выданні

*Кнігарня на плошчы атрымала новыя выданні на нашай мове. Цікавыя і ілюстраваныя для дзяцей, гістарычныя выданні для дарослых. Заходзьце і набывайце.*



Свои обращения, отклики, пожелания вы можете прислать нам на адрес: 213809, Бобруйск, а/я 25.

СПОРТ

## Новы сезон: пачатак удалы!

Футбалісты бабруйскай "Белшыны" вярнуліся з замежнага збора ў Славакіі. Апошнія падрыхтоўчыя гульні каманда правяла двума складамі са светлагорскім "Хімікам" (Д2). Ігракі асновы з лікам 3:0 перамаглі. На разу адзначыліся навабранцы міжсезоння Трухаў, Алешчанка і Седнеў. Упершыню пройдзе першынство і сярод дубліруючых складаў. Таму клуб, раздзяліўшыся на дзве часткі, праводзіць гульні паралельна. Дык вось, дублёры таксама перамаглі – 1:0 (Турлін).

Напярэдадні адкрыцця чэмпіяната адбылася сустрэча з новым гендырэктарам БШК "Белшына" Дзмітрыем Сівіцкім, на якой камандзе былі прадстаўлены новы прэзідэнт, былы віцэ – Алег Гушча.

11 красавіка ў першым туры 11 чэмпіяната бабруйчане сустрэліся ў Брэсце з мясцовым "Дынама". З лікам 2:0 перамаглі нашы землякі. Абодва галы на рахунку Вячаслава Гормаша. А дублёры разышліся з мірам – 0:0.



**Каляндар гульняў 11-га нацыянальнага чэмпіяната па футболе (першы круг) з удзелам "Белшыны"**

*6 траўня (нядзеля)*
"Белшына" – "Лакаматыў"
*14 траўня (панядзелак)*
"Тарпеда-МАЗ" – "Белшына"
*22 траўня (аўторак)*
"Славія" – "Белшына"
*10 чэрвеня (нядзеля)*
"Белшына" – БАТЭ
*21 чэрвеня (чацвер)*
"Белшына" – "Днепр-Трансмаш"
*25 чэрвеня (панядзелак)*
"Маладэчна-2000" – "Белшына"
*1 ліпеня (нядзеля)*
"Белшына" – "Шахцёр"
*7 ліпеня (субота)*
"Дынама-Мінск" – "Белшына"
*14 ліпеня (субота)*
"Белшына" – "Гомель"

**Віктар КАЧАН.**

НОВАЕ

## Новая ініцыятыва нашых жанчын

Гарадская арганізацыя працоўных жанчын распачала акцыю "Ніхто не павінен застацца адзін".

Жанчыны запрасілі да сябе шасцярых салдат-сірот, якія праходзяць вайсковую службу ў Бабруйску.

На жаль, на першай сустрэчы прысутнічаў толькі адзін Дзмітрый Клімовіч, які з-за трагічных абставін застаўся без бацькоў і разам з сёстрамі вырас у Мсціслаўскім дзіцячым доме.

У офісе БАПЖ у гасцініцы "Бабруйск" быў зроблены салодкі стол, арганізаваны гульні.

І госць, і гаспадыні гутарылі пра жыццё. Дзмітрый хутка дэмабілізуецца, але жаночая арганізацыя прапануе і надалей яму сваю падтрымку. Мяркуецца, што праграма "Ніхто не павінен застацца адзін" будзе дзейнічаць пастаянна. У наступны раз у госці да гарадской арганізацыі БАПЖ запрошана 6 салдат.

**Л. РОДЗІКАВА.**

## Адкрыцці, адкрыцці...

Ажно два значныя адкрыцці для нашага горада адбыліся на гэтым тыдні. У шостым мікрараёне адчыніліся дзверы чарговага філіяла БТАА "Амега-Люкс". Як заўсёды, цудоўнае памяшканне, усмешлівыя гандляры, найшырэйшы выбар разнастайных тавараў на любы густ. Таму, калі вам хочацца есці ці выпіць, прыходзьце ў "Амегу", там вы знойдзеце ўсё, што вам неабходна.

А каб падлячыць свае зубы пасля чагосьці з'едзенага, для вас гасцінна расчыніў дзверы стаматалагічны цэнтр ТДА "Тары", але ўжо не ў шостым мікраёне, а на вуліцы Сацыялістычнай, каля палаца шлюбу. Ізноў жа ж —еўрарамонт, кваліфікаваны персанал, зручны расклад працы, адным словам, усё так, як павінна быць у нармальным еўрапейскім горадзе.

Бабруйск расце, з'яўляюцца новыя будынкі, прадпрыемствы, павялічваецца колькасць жыхароў (няхай сабе і за кошт прыезджых). Нягледзячы на ўсе цяжкасці, з'яўляюцца ўстановы, што паляпшаюць жыццё гараджан. Хочацца толькі, каб усе бабруйчане маглі скарыстацца з таго, што прызначана для іх, і па заслугах ацанілі клопат пра сябе.

**Алёна АНДРЭЕВА.**

КРИМИНАЛ

# Выпьем за любовь, родная!

Осень. Холодно. Виктор Стеценко и Олег Гучков коротали ветреный ноябрьский вечер на задворках деревенского магазинчика за бутылкой дешевого "чернила". Бутылка, распитая на двоих, – что за доза для мужиков? И не согреешься, и не повеселишься.

– Вот еще бы пару стопариков покрепче, – мечтательно потянул Гучков. – И не нужен нам берег турецкий...

При этих словах он резко осекся, поймав на себе тяжелый взгляд собеседника.

– Ты это, Витя... не нервничай. Это ж я так... из песни... Разве плохо было б сейчас по стопарику?

Витькина нервозность объяснялась очень просто: когда-то еще в незапамятные лета, в пору далекой юности он был как-то раз пойман на занятии неприличном и постыдном возле дырочки, специально пробуравленной в стене женского туалета. Разбирая "уголовное дело" Стеценко, тогда еще ученика Гордеевской восьмилетки, директор школы напоследок возмущенно сплюнул:

– Это же надо до такого додуматься! Нет бы заняться чем путным, так он вместо уроков... Тьфу, турок какой-то!

Прозвище прилипло. Тем более что смуглый, чернявый Витька и впрямь чем-то напоминал представителя нации, в Гордеевке мало известной. Усугубляло положение то обстоятельство, что Турок терпеть не мог своей клички, напоминающей о позорном прошлом, и услышав ее, тотчас бросался в драку. В таких случаях желающие подразнить так просто не отстают. Вот и боролся бедолага со всем миром уже лет эдак 30...

Он снова грозно покосился на съежившегося в предчувствии побоев собутыльника, но настроение почему-то было неподходящим для драки.

– Ладно уж, считай, что я не слышал. Давай-ка лучше прогуляемся до Вальки, есть одна мыслишка...

Друзья двинулись к дому Валентины Гапоненко. Их бывшая одноклассница почти всю жизнь прожила в городе, но когда дети подросли, вернулась в родительский дом, оставив квартиру взрослому сыну. Вдовушка обзавелась хозяйством, устроилась на какую-то непыльную бумажную работенку в колхозе и жила по деревенским меркам припеваючи.

Витька застал ее слегка подвыпившей и оттого очень гостеприимной. Прямо с порога клянчить на бутылку было бы, конечно, неприличным, и потому он деликатно присел на край табуретки, слушая женские жалобы веселой вдовы:

– Вот ты же понимаешь, Витя, мне в родном доме живется неплохо. И курочки, и кабанчик есть. Дети приезжают: мама – то, мама – это. А счастья нет... Я же еще молодая, могла бы и замуж... Нет для меня здесь достойных. А всякая шваль донимает. Думают, если вдова... Генка Парахневич, знаешь, уже душу вынул: выходи за меня, да выходи... Представляешь, стучится и стучится ночи напролет: дескать, впусти его... Да на кой он мне сдался, старый козел?

Очаровательная в своем женском кокетстве, Валентина как-то совсем позабыла о том факте, что "старый козел" вообще-то был ее ровесником. Но Витька, конечно, не стал ей об этом напоминать.

– Да, Валюша, – сочувственно вздохнул он. – Лезет же к одинокой бабе... то есть, женщине всякая дрянь. А я вот, знаешь, зашел узнать по-соседски: может, чем помочь надо? Ну, там, по хозяйству или так... Все ж таки мы с тобой тоже были не совсем чужими людьми. Помнишь? Старая любовь, говорят, не ржавеет.

При этих словах он мечтательно вздохнул. Валентина пробормотала что-то вроде "да-да" и задумалась. Действительно, в пору далекой юности между ними вроде бы намечалась какая-то симпатия, но это светлое чувство оборвалось как раз после Витькиного неэтичного поступка с дырочкой в стене. Какая ж деревенская девушка стала бы после этого встречаться с Турком?

– Ладно, Витя, – хлопнула она ладонью по столу. – Ты же не за этим пришел, чтоб старое ворошить? Небось, "добавить" надо? Так и быть, мильёнчик я тебе одолжу, но ты мне за это привези зерна. А то курей кормить нечем.

Когда окрыленный тысячерублевой бумажкой Стеценко вышел на улицу, то здесь же, у Валькиной калитки, встретил "старого козла" Генку Парахневича. Витька еще и подумать ничего не успел, как его кулак почему-то сам собой врезался "сопернику" между глаз. Завязалась драка. Правда, выскочившая из хаты Валентина быстро прекратила побоище, но Турок все же успел осознать себя настоящим мужчиной и народным заступником. Он с гордостью продемонстрировал Гучкову "заработанные" деньги:

– Видал? Валентина заплатила, чтоб я Генке морду набил. А то он к ней пристает.

Олег несколько удивился ошеломительным успехом новоявленного "киллера", но деньги, как известно, не пахнут. На "точке" взяли еще "литру". Справиться с такой дозой вдвоем было бы вполне можно, но как-то скучновато.

– А давай мы это... к Генке зайдем, – предложил Гучков после пары "соток", – поговорим как мужики. Он от "мировой" не откажется, я его знаю.

Сказано – сделано. Парахневич, которому друзья с порога продемонстрировали принесенное угощение, действительно сразу забыл недавние обиды. Это ж бабы, как поругаются – могут год потом не здороваться. А мужики всегда найдут общий язык. Жаль только, что "эликсир дружбы" быстро кончается. Допив вторую бутылку, гости засобирались восвояси.

– А давай еще к Вальке зайдем, – предложил на улице Витька. – У нее деньги есть, я видел. Пусть доплачивает нам, как этим... наемникам.

Свет в окнах веселой вдовы еще не погас. Правда, женщина вовсе не горела желанием привечать ночных визитеров, но Турок вовремя сообразил соврать, что они привезли ей мешок зерна. Пришлось впустить. Увидев, что ее обманули, Валентина разозлилась:

– Какого черта вы тут шляетесь? Ищете, где опохмелиться? Вон отсюда к такой-то матери.

Однако расхрабрившиеся "киллеры" и не думали уходить. Начали они, правда, с униженных просьб "одолжить на опохмелку", но когда Валентина стала выпихивать тщедушного Олега легкими пинками, в Стеценко взыграла оскорбленная гордость.

– А, так ты, курва, еще и драться?! Могучей оплеухой он свалил женщину на пол. Мгновенно подоспевший Гучков, который тоже вдруг ощутил себя обиженным, несколько раз ударил ее ногой в бок. Видя, что дело принимает нешуточный оборот, Валентина вскочила и бросилась к дверям. Но Стеценко мгновенно догнал ее. Вцепившись в волосы, потащил в комнату. Гучков быстренько включил магнитофон на полную громкость. И на бедную женщину градом посыпались пинки и оплеухи.

– Скажешь, где деньги? – наконец спросил Витька, брезгливо вытирая о штаны окровавленную руку. В пылу драки Валентина все-таки сумела его оцарапать.



– Сама скажешь, или добавить? – он угрожающе занес кулак над ее головой.

– Там, в шкафу, на полке, – прохрипела она в ответ.

Грабители в два счета повышвыривали из шкафа все содержимое. И под стопкой чистого белья нашли деньги. Пересчитав их, Стеценко возмутился:

– Ты хочешь сказать, это все? Что, кроме девяти тысяч у тебя ничего нет? Доллары давай, а то тут и останешься лежать.

В доказательство своих слов он схватил со стола кухонный нож и стал демонстративно поворачивать его перед глазами перепуганной жертвы. Валентина в ужасе отшатнулась:

– Какие у меня могут быть доллары? Ты что, Турок, совсем ума лишился?

Нечаянно произнесенное ненавистное прозвище окончательно лишило Витьку остатков рассудка. Одним махом разорвав на женщине платье, он швырнул ее на кровать:

– Сейчас ты узнаешь, кто из нас Турок! Я тебе покажу старую любовь... по-турецки...

Видя такой поворот событий, Гучков потихоньку ретировался в кухню. Он приметил, что там возле шкафчика стоит початая бутылка вина. Удовлетворенно хмыкнув, налил себе полстакана, потом еще столько же... От этого приятного занятия его оторвал возмущенный рев Витьки:

– Да иди ты сюда, придурок! Она ж не дается! Войдя в комнату, Гучков сразу понял свою задачу. Схватив Валентину за руки, он всем весом придавил ее голову к подушке, а Витька, воспользовавшись моментом, сорвал с женщины остатки одежды и расстегнул на себе брюки... Удовлетворив похоть, пьяно подмигнул "помощнику":

– Может, и ты.. того.. попользуешься? А то ей, кажется, маловато показалось...

Гучков вначале думал ограничиться ролью пассивного наблюдателя, но распластанное на кровати женское тело в растерзанном платье вдруг показалось ему необыкновенно соблазнительным.

– Ты ее только это.. за руки подержи... А то обдерет своими когтями, – попросил он Витьку. Потом они снова поменялись ролями. Полночи за бутылкой найденного вина и "любовными" утехами пролетело почти незаметно. Женщина, смирившись со своей участью, уже почти не сопротивлялась их пьяным домогательствам. Проплакав остаток ночи после ухода "любовников", Валентина не находила себе места. Что делать? Заявить в милицию? Так ведь стыдно же. На пятом десятке лет о ней станут судачить, как о какой-нибудь беспутной девчонке... Подошла к телефону и набрала Витькин номер.

– Слушай, я не буду заявлять в милицию, – сказала она, услышав его голос. – Не хочется позора. Но вы хоть деньги верните, жить не на что. Давай по-хорошему...

Но Турок еще не забыл, как легко удалось "договориться" с ней нынешней ночью, и, чувствуя себя победителем, загоготал:

– Какие деньги? Поди проспись, подружка! За любовь надо платить!

Униженная Валентина бросила трубку и снова заплакала. Потом, успокоившись, опять подошла к телефону и уверенно набрала "02".

Деревенские Казановы были задержаны в тот же день. Впереди суд, и за "старую любовь по-турецки" нашим "героям" действительно придется заплатить сполна.

**Ирина ВЕРБИЦКАЯ,**
**Бобруйский район.**

* Фамилии изменены.

Напоминаем, что вы имеете возможность опубликовать в нашей газете частное объявление АБСОЛЮТНО БЕСПЛАТНО!

ВАНДРОЎКА

## Бабруйчанін у Кіеве

*(Працяг, пачатак на старонцы **B**)*

кіеўскім снезе.

Прымкнуўшы да групоўкі шчабечучых дзяўчын, накіроўваюся ў метро. Вакзал з жоўта-блакітным сцягам наверсе застаецца дзесьці ззадузлева. Добры дзень,Кіеў.

### Метро.

За мінулае дзесяцігоддзе незалежнасці ў кіеўскім метрапалітэне не адбылося аніякіх значных змен. Аднак, як і ў асобы, у кожнай станцыі, у кожнага лакаматыва засталася свая самабытнасць, непадобнасць да другіх, ёсць свая гісторыя.

Абмяняўшы дзве грыўны на чатыры жэтоны, далучаюся да натоўпу жадаючых патрапіць у падземнае царства. Уздоўж сцен стаяць людзі і мяняюць у аўтаматах папяровыя грыўны на жэтоны. Бляшаныя скрыні глытаюць грошы і аддаюць бардовыя круглячкі.

Сябра з Мінска імкнецца запхнуць пяцірублёвую купюру ў адзін з варожых аўтаматаў. Замест жэтонаў той з нянавісцю выплёўвае ўсё тыя ж пяць рублёў і, паказаўшы менчуку дула, чырвонымі лямпачкамі падзывае да сябе міліцыянера. Ледзь не патрапіўшы ў прывакзальны пастарунак, разам з сябрам хаваемся на эскалатары.

(Працяг будзе).

**Зьміцер БЕРДНІКАЎ.**

БЫТАВУХА

## Настаўнік – заяц

Аднойчы ў грамадскім транспарце давялося назіраць такі выпадак. Кантралёр затрымала "зайца" – пажылую жанчыну.

- Я хворая, у мяне няма грошай на праезд, — апраўдвалася кабета.
- Гэта ж наша настаўніца! – выгукнулі школьнікі, што стаялі ля дзвярэй.
- Чаму такая ўчыцельніца дзяцей вучыць! – абурылася кантралёр.

Вам смешна? Пачатак красавіка, а аванс за сакавік яшчэ не выплачаны. У мяне таксама білета няма. Аўтобус пад'язджае да прыпынку. Ціснуся да выхаду. Пранясе?

**Таццяна БАРЫСІК.**

УСМІХНЕМСЯ

## На бобруйских столбах

Часто смешное не нужно выдумывать.Стоит лишь прогуляться по родному городу и внимательно почитать его объявления.Среди моментальных похудений и магических обогащений вас уже ждёт маленький нелепый шедевр.

• По семейным обстоятельствам срочно продаётся корова.Характер спокойный, покладистый.
• Продам пол дома.
• Кто потерял ротвейлера, просьба сообщить его кличку.
• Возьму под реализацию женский товар.
• Новый год и Рождество в Чехии!!! Заезды с 20.01.
• Возьму на квартиру девушку с предоплатой.
• На дверях платного туалета: "Извините, приём товара".

**Столбы исследовал Д. ДОВГАЛЬ.**

## У "светлае назад" на хвастатай пачвары

А раскажу я пра пачвару,
Вышэй капліцы яе рост.
Зусім Бабруйску не да твару
І капыты, і зяпа, й хвост.

Спаліў свяцейшы храм той злодзей.
І тым праславіўся ў вяках,
А Рамаunion — смех дый годзе –
Каня паставаіў на слупах.

Плячысты з пуза наш каняка,
Двайны бюджэт адразу ўклаў,
А як пад'еў, дык, небарака,
Усе дарогі здрасаваў.
Увесь Бабруйск той конь разбэсціў,
Вадзіцель – той прамашку даў:
"Конь Рамаcоўскага" – абвесціў,
"Прыпынак "Чэхава" – дадаў.

Як ёсць паны – халопы будуць,
І дурню будзе адвакат.
Паўсюдна ў нас пануюць людзі,
Што цягнуць у "светлае назад".

Хаця па-свойму кожны судзіць,
Стаіць з узнятай галавой,
Ды конь лунаць шчэ доўга будзе,
Як помнік дурасці людской.



КОНКУРС

### Хто ж будзе самым лепшым?

12 красавіка ў лекцыённай залі Славянскай гімназіі прайшоў першы, інтэлектуальны тур гарадскога конкурсу сярод навучэнцаў разнастайных навучальных установ горада (ад школ да каледжаў). Цяпер вучням было прапанавана тэставае заданне з 17 пытанняў па гісторыі і культуры мінулага стагоддзя. Галоўным было праявіць нейкую фантазію, творча абгрунтаваць свой выбар. Хутка другі тур, на якім ужо трэба будзе паўстаць перад публікай ды абаяць журы і глядзельную залю.

**Алена АНДРЭЕВА.**

ФЕЛЬЕТОН

## На другі дзень пасля Дня дурня...

На другі дзень пасля Дня смеху ці Дня дурня, як называюць першае красавіка ў народзе, асобы, якія не нажартаваліся, вырашылі працягнуць банкет. З гэтай нагоды, напэўна, і сабраліся ў памяшканні тэатра абдзеленыя пачуццём гумару і вырашылі адсвяткаваць чарговую гадавіну Дня яднання.

"Святочная" імпрэза пачалася з выступаў майстроў размоўнага жанру. Кожны спрабаваў пераўзысці ў красамоўстве свайго папярэдніка, усё ішло па жанравых законах "мазаічнай псіхапатыі": прапрацоўка, узгадненне, збліжэнне, яднанне, прасоўванне, пераадольванне і. г.д. Не абышлося і без маніі пераследу, у якасці пужала выступалі сілы, "якія не жадаюць такога аб'яднання".

Першае месца, на думку нашай газеты, заняў дзядзька з вусамі, (але не галоўны яднальшчык Беларусі і Расіі), ён выдаў наступную абракадабру: "Толькі агульнымі намаганнямі можна пераадолець крызіс народных гаспадарак, зрабіць эканомікі дзвюх краін моцнымі, жыццё людзей багацейшым". Як не прыгадаць тут прафесара Прэабражэнскага, героя найактуальнейшага сёння твора Міхаіла Булгакава "Сабачае сэрца". Ён кожную разруху адносіў да праблем чалавека, у якога адбылася сварка з уласным розумам. Напрыклад, калі ўвесь час мачыцца міма ўнітаза, то ў прыбіральні абавязкова пачнецца разруха, ці крызіс, аб якім так любяць узгадваць сёняшнія Шарыкавы ды Швондзеры.

На заканчэнне яднальцы, нагледзеўшыся абавязковага для мерапрыемстваў такога кшталту канцэрту мастацкай самадзейнасці ды апляскаўшы ў ладкі, пачалі разыходзіцца.

Дзякуй Богу, што кожны пайшоў сваім шляхам і нікому не прыйшло ў галаву аб'яднацца сямейнымі ложкамі ці ўласнымі кішэнямі.

**Іван МАСКАЛЁЎ.**

## Бесплатные частные объявления

Меняю двухкомнатную квартиру 51/34/8,5, 8 этаж дома на Волковыск.
*Тел. в Бобруйске 3-24-80, Волковыске: 4-81-53.*

Продам дубленку мужскую (Канада, разм. 48-50 б/у); дубленку женскую (США, разм. 52 б/у); костюм мужской (Франция, разм. 48 б/у); шапки зимние (ушанки) – из рыжей лисы новая, песцовая б/у; шляпы фетровые (зеленая и красная); пальто демисезонное с рыжей лисой, разм. 54; сапоги мужские (дутые) разм. 43, почти новые; дивандеки, накидки для кресел, покрывала; скороварку (новая).
Все вещи в хорошем состоянии, цена договорная.
*Телефон: 3-90-08.*

Меняю дом, пригодный для дачи, в поселке Глуша на автомобиль ВАЗ любой модификации, или продам.
*Звонить 93-4-34 в рабочие дни с 12 до 18, позвать Олега.*

Продам красивые растения, которые украсят ваш офис, кабинет.
*Более подробно по телефону: 55-51-13.*

Общественная инициатива "Независимый взгляд" в Бобруйске предлагает всем, кому не безразлично будущее Беларуси, участвовать в создании объективного наблюдения за подготовкой и ходом выборов.
*Тел. для справок: 7-75-60 (Игорь).*

Девушка 23 года ищет работу, в свободное от работы время. Времени предостаточно. Предлагать любые варианты.
*Тел. 4-36-34. (с 16.00) Таня.*

Продам CD-плеер новый.
*Тел. 4-45-38 (после 17.00)*

Продам пианино. Импортного производства. Состояние хорошее.Цена очень невысокая.
*Тел. 2-08-86.*

Продам два стекла недорого. Размер 138х106х0,6 миллиметров; шкаф кухонный б/у.
*Звонить вечером. Тел. 3-65-72.*

Продам: мягкие уголки «Мечта», «Цезарь», спальни «Медуница», «Лагас»; телевизор «Горизонт» СТВ – 655-3-и, 54 см, кинескоп «Tomson». Все новое, в упаковке, с доставкой на дом.
*Тел. 4-17-92. Звонить до 23.00.*

Выполню контрольные по высшей математике, курсовые по экономическим, гуманитарным и другим дисциплинам. Компьютерное оформление. Дип. А.№ 0010708 с отл.
*Тел. 4-29-23.*

Продам счетчик холодной воды СХВ-15 (комплект для установки).
*Тел. 7-20-41.*



## Купон частного бесплатного объявления

Имя и фамилия (*не для печати*) ______________________

Адрес (телефон) (*не для печати*) ______________________

Текст объявления: ______________________

______________________

______________________

______________________

**Вырезать, заполнить, послать по адресу: 213809, Бобруйск, а/я 25.**